# АНТЫФАШЫК



ІНФАРМАЦЫЙНЫ АНТЫФАШЫСТОЎСКІ БЮЛЕТЭНЬ

BELARUSIAN INFORMATION ANTI-FASCIST BULLETIN

№1(2), 1999




## У 30-я гады нацыкі галілі ногі й надзявалі кароткія шорцікі, каб уцерціся ў давер моладзі. Сёньня іхныя ўжымкі тыя ж. Толькі цяпер яны голяць галовы...

– Bin ich sexy, nicht wahr?

# Антыфашыстоўскія навіны

## Вайна абвешчаная!

Адбылося тое, што даўно мусіла адбыцца - на вуліцах беларускіх гарадоў пачалася вулічная вайна. І гэта не разборкі паміж раёнамі.

Ужо даўно мы назіралі, як карычневыя чмошнікі тэрарызавалі маладзёвыя тусоўкі. Нарэшце, яны давыё...ліся і пачалі сыстэматычна адграбаць па поўнай праграме. Спружына канфрантацыі стала раскручвацца яшчэ ўвосені, калі мелі месца сутычкі паміж скінамі з аднаго боку і рэпэрамі й рабочай моладзьдзю з другога, у Гомелі. Разборкі скончыліся гаспіталізацыяй некалькіх нацыкаў.

27.12.98 трывожны сыгнал паступіў зь Менску. Каля палацу Шашак і Шахмат, дзе павінен быў адбыцца рэп-сэйшн з удзелам маскоўскага гурта «Кирпичи», што неаднаразова лажалі скіноў-нацыкаў у сваіх інтэрвію, адбыўся крывавы інцыдэнт. У фае палацу ўварваліся некалькі дзясяткаў скіноў, узброеных ланцугамі, арматурай і кастэтамі, атакавалі нагоўп рэпэраў колькасьцю прыблізна ў 20 чалавек. Драка закончылася выклікам «хуткай дапамогі» і арыштам пары-тройкі нацыкаў, якіх, дарэчы, хутка адпусьцілі (як хваталіся самі скіны - «сярод міліцыянтаў шмат нашых»). Паводле законаў вэндэты рэпэры нанесьлі адказны ўдар. Увечары на Трубе (пераход ст.м. Кастрычніцкая) група моладзі з бэйсбольнымі бітамі адмяцеліла скіноў так, што апошнія амаль не акачурыліся. Ад вернай кантузіі іх выратавалі толькі мянты, якія павінцілі і тых, і іншых.




**Антыфашыстоўскі авангард на музычным фронце. Афішка сэйшну, пад час якога панкі начысьцілі рыла нацыкам**

Напрыканцы студзеня тэатар ваенных дзеяньняў пашырыўся за кошт новых пэрсанажаў. У барацьбу ўступілі панкі. 31.01.99 падчас сэйшну Punk Hardcore & More (з удзелам гуртоў Twin Pigs, Hate To State і Deviation) у рок-клюбе «Касмапалітэн» некалькі нацыкаў спрабавалі качаць правы і паказаць усім, хто тут самы круты. Але доўга яны не ванялі. Вакаліст гурта «Devation» Стас паказаў яскравы прыклад прамога дзеяньня і атакаваў выябоністых нацыкаў першым. Аўдыторыя жыва ўспрыняла лёзунг «Ёбні фашысцкай гадзіне ў рыла» і адвесіла фашыкам такіх пі...юлей, што яны ледзьве выпаўзьлі з залі.

Наступны эпізод неабвешчанай вайны - 4.02.99. Група сяброў «Маладога Фронту» вышчаміла ў пераходзе на ст.м. «Плошча Перамогі» кучку баркашоў і ад душы пакатала іх нагамі. Праз адзін дзень фашыкі ўзялі частковы рэванш, счапіўшыся з актывістамі Хартыі'97.

Мы прывялі далёка ня поўную кроніку супрацьстаяньня антыфашыстоўскай моладзі з жопалізамі Гітлера-Кубэ, але гэтага дастаткова, каб зразумець - барацьба пачынаецца! Кожны павінен зрабіць свой выбар! Альбо ты - свабодная асоба, альбо - абыякавы лох, якога заўтра будуць мець ва ўсіх позах. Той, хто ня хоча быць «шасьцёркай» неданоскаў-яфрэйтараў, павінен аб'ядноўвацца і змагацца!

**СТВАРАЙЦЕ БРЫГАДЫ АНТЫФАШЫСТОЎСКАГА СУПРАЦІВУ І П...ДЗІЦЕ ФАШЫСТАЎ, ДЗЕ ТОЛЬКІ МОЖНА!..**

**АЧЫСЬЦІМ НАШЫ ВУЛІЦЫ АД КАРЫЧНЕВАГА ГАЎНА!**
**СЬМЕРЦЬ ФАШЫЗМУ!**
**NO PASARAN!**

## Міжнародная інфармацыя

### Нацысцкіх выблядкаў не ўратавала паліцыя

9.01.1998 у Лёнданскім раёне Довэр фашысты з Нацыянальнага Фронту намагаліся правесьці дэманстрацыю супраць пашырэньня правоў эмігрантаў. З усёй Англіі нацы сабралі ўсяго 30 чалавек, большасьць зь якіх зьяўляюцца актывістамі «аранжысцкага» руху (праціўнікі ірляндзкага самавызначэньня). Мясцовыя антыфашысты выставілі каля 160 чалавек. Нягледзячы на тое, што каля 300 паліцэйскіх намагаліся стрымаць антыфа, марш НФ быў разагнаны праз паўгадзіны ад яго пачатку. Арыштавана 2 антыфашыста.

### У каго больш арыйскі чэрап?

У Францыі працягваецца ўнутраны канфлікт сярод сяброў Нацыянальнага Фронту - самай уплывовай праварадыкальнай арганізацыі ў Эўропе. Галоўныя пэрсанажы разборкі - старшыня НФ Лё Пэн і ягоны палітычны намесьнік Мэгрэ. Цяпер былыя сябры называюць адзін аднаго ня йнакш, як «паразіт», «каналья» і «камуніст». Зразумела, гэта толькі на руку антыфашыстам. Адпаведна апошнім апытаньням узровень папулярнасьці НФ упаў з 10% да 4%.

### Патэнцыйны пагарэлец

Заява Г. Штойбэ, кіраўніка нямецкага Хрысьціянска-Дэмакратычнага Саюзу, аб пачатку пэтыцыйнай кампаніі супраць увядзеньня ў краіне падвойнага грамадзянства выклікала ажыятаж сярод мясцовых нэафашыстаў. У сувязі з гэтым падпольная антыфашыстоўская арганізацыя КОК выразіла пагрозу ўзарваць штаб-кватэру кансэрватараў.

### «Здымем пакой. Нядорага...»

У нямецкім горадзе Мульда, у будынку, дзе ў хуткім часе павінен быў праходзіць партыйны зьезд праварадыкальнай «Нацыянал-Дэмакратычнай партыі», адбыўся пажар. Адказ за акцыю ўзяла на сябе адна з падпольных антыфашыстоўскіх групаў. Даведаўшыся пра інцыдэнт у Хале, кіраўніцтва НДП заявіла, што месца правядзеньня зьезду будзе перанесенае.

### Чарговы нацысцкі жмурык

27 лістапада 1998 у праскім клюбе Кэмптан пяць нацыкаў напалі на двух сябраў Чэскай Анархісцкай Фэдэрацыі. Змагаючыся за сваё жыцьцё, адзін з анархістаў, Міхал Патэра, выцягнуў нож і пачыкаў аднаго фашыка. Хутка Патэру арыштавалі і зараз яму пагражае 25 гадоў турмы. Гэта ўжо чацьверты выпадак, калі ўлады кідаюць ахвяраў фашысцкага тэрору за краты за тое, што яны спрабавалі аказаць дзейсную абарону фашыкам. Каб спыніць дзяржаўныя рэпрэсіі, антыфашысты Чэхіі пачынаюць кампанію за вызваленьне М.Патэры. Пасылайце заявы пратэсту ў амбасаду Чэскай Рэспублікі ў РБ, або пішыце лісты салідарнасьці М.Патэры.

Кантакт: Michal Patera (1976), P.O.Box 5, 14057 Praha 4, Ceska Republika

### Не прайшлі

30 студзеня ў Лёндане 200 нацыстаў з Нацыянальнага Фронту выйшлі на антыірляндзкі марш, прысьвечаны 27 гадавіне «Крывавай Суботы». У гэты дзень у 1972-м годзе батальён ангельскіх парашутыстаў адкрыў агонь у паўночнаірляндзкім Ландандэры па мірнай маніфэстацыі каталікоў. Было забіта 13 чалавек. Ангельскія фашысты патрабавалі рэабілітаваць салдатаў, прычасных да растрэлу мірных грамадзянаў, і вымагалі ад ураду працягваць барацьбу з IPA. Далёка прайсьці фашыкам не далі. На першым сьветлафоры маніфэстацыя была расьсеяная антыфашыстоўскімі баевікамі.

### Адкілялі на выставе

30 студзеня. Нямеччына. У гэты дзень у паўночнанямецкім горадзе Кіль плянавалася адкрыць выставу аб злачынствах салдат Вэрмахту падчас 2-ой сусьветнай вайны ва Ўсходняй Эўропе. Прыблізна 1000 праварадыкалаў адклікнуліся на заклік «Нацыянал-Дэмакратычнай Партыі» (НДП) і зьехаліся ў Кіль з усёй краіны, каб пратэставаць супраць згаданай экспазыцыі. Аднaчасова мясцовыя антыфа мабілізавалі каля 400 чалавек, якія камянямі і кактэйлямі «Молатава» блякіявалі рух фашыстоўскай маніфэстацыі. Паліцыя паспрабавала абараняць фашыкаў, што прывяло да агульнагарадзкіх беспарадкаў. Падчас хваляваньняў было разрабавана й спалена некалькі супэрмаркетаў. Каля 40 антыфашыстаў арыштаваныя.

# Што вы даўно хацелі ведаць пра антыфашызм

*12 сьнежня 1998 у Менску. на базе рэдакцыі бюлетэню «Антыфашык» пры падтрымцы Маладзёвага Інфармацыйнага Цэнтру. Задзіночаньня Беларускіх Студэнтаў і антыпартыйнай групы «Чырвоны Жонд» адбыўся сэмінар на тэму «Маладзёвая контаркультура і фашызм». У якасьці ўдзельнікаў былі запрошаныя маладыя антыфашысты: студэнты, рабочыя, рок-музыкі... Мы прапануем у рэфэратыўным выглядзе частку выкладзеных на сэмінары дакладаў і спадзяемся, што традыцыя адкрытых дыскусіяў на тэму барацьбы з фашызмам будзе працягнута далей.*

## Тыорыі субкультуры і маладзёвая контаркультура.

Маладзёвая контаркультура зьяўляецца спэцыфічнай часткай субкультурных фэномэнаў, што існуюць у грамадзтве. Субкультура як зьява ўвогуле вядомая даўно. На кожным этапе гісторыі былі асобы, якія адмаўлялі пануючыя ў соцыюме нормы. Што да маладзёвай контаркультуры, то яна ўзьнікла наступствам структурных рэформаў у індустрыяльных краінах Захаду на этапе іх пераходу да мадэлі масавага спажываньня. Гэтыя працэсы спрычыніліся акрамя ўсяго да зьяўленьня новай устойлівай сацыяльнай групы насельніцтва - моладзі. Калі раней у традыцыйным грамадзтве пераход зь дзяцінства ў дарослaсьць праходзіў хутка і амаль аўтаматычна, то зараз узроставыя межы маладосьці былі значна пашыраныя. Вынікам узьнікла праблема адаптацыі юнацтва да рэальнасьці, бо старыя мэханізмы сацыялізацыі больш не функцыянавалі.




Культуралягічная схема грамадзтва

Самазацьвярджаючыся ў грамадзтве, моладзь была вымушаная ствараць сваю культуру, што праўлялася ў модзе, стылі жыцьця, музыцы, а таксама ў бескампрамісным стаўленьні да каштоўнасьцяў папярэдняй генэрацыі, уключаючы палітычныя. Наступства студэнцкіх рэвалюцыяў 68-га году, што радыкальна зьмянілі Захад на карысьць плюралізму, дэцэнтралізацыі і спантанітэту, сьведчаць: контаркультура зьяўляецца сродкам, здольным мяняць грамадзтва. Фактычна, студэнцкая рэвалюцыя 68-га году - рэалізаваны сцэнар італьянскага марксіста А.Грамшы, які яшчэ ў 30-ых гадах распрацоўваў тактыку культурнай барацьбы за кантроль над грамадзтвам. «Сфэра паўсядзённасьці, - пісаў ён, - ёсьць ідэалягічны прадукт пануючай клясы і аднaчасова падмурак ейнай улады. Такім чынам, мы можам прыйсьці да перамогі ня шляхам палітычнай барацьбы, а праз экспансію нашых культурных каштоўнасьцяў». У гэтым кантэксьце пытаньне ўзаемадачыненьняў фашызму й контаркультуры гучыць дастаткова актуальна.

## Фашыстоўская дзяржава і маладзёвая субкультура «зазу» ў пэтэнаўскай Францыі 1940-44 г.г.

Маладзёвая субкультура як форма самавыяўленьня маладога чалавека ня можа мець з фашыстоўскай або аўтарытарнай дзяржавай нічога агульнага, бо фашызм адмаўляе любому прадстаўніку грамадзтва ў праве на адрознасьць. У якасьці прыкладу можна разглядзець узаемаадносіны фашыстоўскага рэжыму маршала Пэтэна ў Францыі да субкультуры маладых сымпатыкаў джазу - «зазу» (падобныя да нашых стылягаў).

Мода быць «зазу» ўзьнікла напрыканцы 30-ых як апалітычны бяскрыўдны рух мэляманаў. Але ў 1941-42, калі маршал Пэтэн пачынае актыўна будаваць сваю мадэль аўтарытарнай дзяржавы - г.зв. «Новую Францыю», «зазу» нечакана для сябе становяцца сымбалем духоўнага супраціву дыктатуры. Справа ў тым, што адной з

умоваў рэалізацыі фашыстоўскага сацыяльнага праекту была палітычная лаяльнасць моладзі. Для гэтага з пачатку 40-ых праводзіўся ў жыцьцё комплекс дзяржаўных мерапрыемстваў, накіраваных на тое, каб узяць пад ідэалягічны кантроль усе маладзёвыя ініцыятывы. Акрамя таго ў сьнежні 1941-га ЗША ўступаюць у антыгітлераўскую кааліцыю. Усё амэрыканскае набывае ў вачах фашыстоўскіх чыноўнікаў імідж варожага і крамольнага. Ня дзіўна, што неўзабаве афіцыйная прэса пачынае першыя атакі супраць «свінгаў». Перш за ўсё, «зазу» абвінавачваюць у непрыстойным зьнешнім выглядзе. Таксама крытыкаваліся танцы (як можна танчыць, калі краіна будуе «новы парадак»?). Але ёсьць рэчы сур'ёзьнейшыя. Як пісала дзяржаўная газэта «L'ouvrier»: «...амаральны дух свінгу не ўспрымае ідэалёгіі нацыянальнай рэвалюцыі. Ён увогуле нічога не ўспрымае сур'ёзна. Свінг ёсьць прадуктам загніваючай дэмакратыі». У прэсе «зазу» выстаўляліся таксама як «англафілы» і «амаль яўрэі». Адначасова на іх вешаюць усе перабоі з прадуктамі, бо «свінгі», як правіла, косяць ад працы на палях, якую ў пэтэнаўскай Францыі павінен быў прайсьці кожны малады чалавек. На наступ уладаў «зазу» адказваюць у сваёй сьцёбнай манеры. Калі 7.07.1942 у сілу ўступіў закон, адпаведна якому кожны яўрэй быў павінен насіць жоўтую зорку, «зазу» адразу паначаплялі жоўтыя шасьцікутнікі з надпісам «зазу». Пасьля гэтага ў дзяржаўным афіцыёзе сур'ёзна прапанавалася пералавіць усіх «зазу» і адправіць у канцлягеры.

У хуткім часе на іх пачынаецца сапраўднае паляваньне. Паліцэйскія і сябры фашыстоўскай партыі PPF лавілі «свінгаў», каб падкараціць ім патлы і адправіць у вёску дапамагаць сялянам зьбіраць ураджай. Паліцыя прадпісвала ўладальнікам кавярняў абмежаваць уваход для «свінгаў». У адказ «зазу» праводзяць падпольныя сэйшны, якія карыстаюцца дзікай папулярнасьцю. Супрацьстаяньне дзяржаве працягвалася, а некаторыя «зазу» нават удзельнічалі ў падпольнай барацьбе з акупантамі. Такім чынам, фэномэн «зазу» ёсьць тыповы прыклад лёсу контаркультуры ў аўтарытарнай дзяржаве.

Ня маючы акрэсьленай сацыяльнай базы з малазьмястоўнай ідэалёгіяй, «свінгі» ня мелі ў акупаванай Францыі нават прэтэнзіяў на палітычную або культурную альтэрнатыву. Але мода, якую яны прапагандавалі, несьвядома набыла магічную сымбалічную сілу супраціву, бо ў вачах рэжыму яны зрабілі самае страшнае злачынства, якое толькі магчыма ў таталітарнай дзяржаве - яны адмовіліся быць такімі як усе.



Так выяўлялі «зазу» на старонках фашыстоўскай прэсы
«– Працаваць на Нямеччыну? Ніколі! Лепш загінуць!..
– Брава, малады чалавек! Вы ня любіце акупантаў?
– Ну... Па праўдзе кажучы, я не люблю працаваць...»

## Сучасны нэафашызм і маладзёвая субкультура на прыкладзе руху скінхэдаў

Пранікненьне фашыстаў у маладзёвы рух - фэномэн 70-ых. У гэты час сьледзтвам краху каляніялізму, сацыяльнай нестабільнасьці, уздыму эміграцыі старпёраўскі склад фашыстоўскіх груповак папоўніўся моладзьдзю. Яна прынесла з сабою новыя арганізацыйныя мадэлі, адной зь якіх стала маладзёвая субкультура. Што канкрэтна да субкультуры скінхэдаў, яна нарадзілася ў Англіі ў адной з груповак руху hard-mod (стылягі), што прапагандавала культ рабочай клясы, вулічнае хуліганства, захапленьне футболам, антыфэмінізм. Гэта была як каляровая, так і белая моладзь з эміграцкіх кварталаў, перасеrange з-за мадэрнізацыі старых рабочых раёнаў. Гордыя за свае рабочыя карані, яны вынайшлі фенькі, радыкальна супрацьлеглыя іміджу і стылю сярэдняй клясы зь яе культам хіпі. Паміж 1967-69 гг. узьнікае саманазва skinheads (брытагаловыя) і шайкі (crew), якія дзяляцца паводле тэрытарыяльнага прынцыпу. Гэта была пралетарская (ці люмпэнская) культура кшталту нашых гопнікаў.

Радыкальныя зьмены ў асяродзьдзі скінаў адбыліся як сьледзтва эканамічных пераменаў і зьяўленьня ямайскіх рытмаў - рэгей, ска, рокстэды. У 70-я гады з уздымам панку скін-стыль перацярпеў крызыс. Але потым скінхэды адрадзіліся, дзякуючы музыцы гуртоў Sham'69 і Screwdriver. У палітычным пляне частка скінхэдаў сымпатызавала радыкальна правым групам, напрыклад, Нацыянальнаму Фронту, або BNP. Аднак зь іншага боку як рэакцыя на пагрозу фашызму іншыя скінхэды прыяднаіліся да левага руху: «Рок супраць расізму», Антынацысцкая Ліга і г.д.

Напрыканцы 70-ых Джымі Пэрсі, Sham'69 і Cockney Rejects адкрылі real punk і Oi!. Адразу пачаў раскручвацца культ скінхэдаў, які падабраў пад сябе рэшткі панкаў. Гэтыя тэндэнцыі яшчэ больш узмацніліся, калі ў моду ўвайшоў музычны стыль ska (Specials, Madness, The Beat, UB 40). Паралельна на пачатку 80-ых на брытанскай маладзёвай сцэне палітычная канфрантацыя дасягнула свайго апагею. Пачалося нешта накшталт вулічнай вайны паміж прыхільнікамі левых і правых. На гэтай падставе субкультура скінхэдаў раскалолася, перш за ўсё ў пляне расізму-антырасізму. У 80-х гадах афармляюцца тры накірункі - апалітычны (самы шматлікі), redskins і, нарэшце, boneheads, або нацыскіны (зьвязаныя з нэанацыстамі).

Традыцыйныя скінхэды ўяўляюць сабой найбольш аялікую частку брытагаловых. На першым месцы для іх піва, ska і футбол. Палітыку яны лічаць бруднай справай і звычайна трымаюцца ад яе далей. Гэтак, адпаведна апытаньням нямецкіх скінаў, толькі 19% сярод іх лічаць сябе праварадыкаламі, астатнія падтрымліваюць каго заўгодна: ад камуністаў да «зялёных».

Рэдскіны. Галоўныя базы чырвоных скінаў - рух S.H.A.R.P. («скінхэды супраць расавых забабонаў») і R.A.S.H. («чырвоныя і анарха- скінхэды»). Адной з галоўных прыкметаў накірунку рэдскінаў зьяўляецца захапленьне ямайскай музыкай, у прыватнасьці ska, і Oi! (музыка панкаўскага кшталту), а таксама паўсядзённы стыль жыцьця. Яны прэзэнтуюць тую частку рабочай клясы, якая ўзьнікла ў выніку натуральных кантактаў белых працоўных і каляровых эмігрантаў, аб'яднаных вуліцай, агульнай барацьбой за заробак і захапленьнем стылем ska.

Нацыскіны. Зваротным бокам рэдскінаў ёсьць нацыскіны, або boneheads (пустагаловыя). У іхнай аснове ляжыць палітычны музычны рух White Power Rock, які папулярызуецца правымі радыкаламі. Акрамя таго, фенькамі нацыскінаў ёсьць футбольны фанатызм і музыка Oi!. Вобраз нацыскіна больш за ўсё тыражуецца мас-мэдыя. Таму імідж скінаў зьвязаны ў большасьці людзей з праявамі агрэсіўнага расізму і фашызму, ня гледзячы на тое, што заходні рух скінхэдаў зьява вельмі складаная.

## Асаблівасьці контаркультуры ў Беларусі

Аўтар дакладу чатыры гады пражыў у Гамбургу ў якасьці шэраговага панка-сквотэра, што дае магчымасьць параўнаць у агульных рысах беларускую і

# НАРАДЖЭНЬНЕ АНТЫФАШЫСТОЎСКАЙ САМААБАРОНЫ

У 1903 годзе імпэрыя Раманавых трышчала па швах пад ударамі рэвалюцыйнага дэмакратычнага руху. Каб выратавацца ад немінучага часу, расейская дзяржава зьвярнулася да выпрабаванага спосабу – распальваньня варожасьці паміж працоўнымі. На ўзбраеньне быў узяты сродак сярэднявечных цемрашалаў – антысэмітызм. 6 красавіка 1906-га году на Пасху пры падтрымцы паліцыі і войска ў Кішынёве быў арганізаваны яўрэйскі пагром. Адурманены натоўп граміў і забіваў яўрэяў-беднякоў замест таго, каб скіраваць свой гнеў супраць сапраўдных вінаўнікаў сваіх бедаў – царскіх сатрапаў і жандараў. За тры дні было забіта 25 чалавек, 75 цяжка паранена, шмат жанчын былі згвалтаваныя. Сьведкі распавядаюць, што на кішынёўскіх вуліцах можна было лёгка наткнуцца на адсечаныя рукі і ногі, чалавечыя трупы.

Змрочны цень пагромаў навіс над усімі гарадамі і мястэчкамі Беларусі, Прыбалтыкі, Украіны, якія ў выніку царскай палітыкі зьяўляліся сапраўднымі яўрэйскімі гета. У шэрагу такіх гарадоў быў і Гомель.

Мясцовыя казённыя рабіны малілі паліцэйскіх аб літасьці, яўрэйская буржуазія як заўсёды спадзявалася адкупіцца. Толькі простыя працоўныя вырашылі даць бой. Удзельнікамі розных сацыялістычных партыяў, яўрэйскімі працоўнымі была заснаваная першая ў Расейскай Імпэрыі ўзброеная самаабарона. Сацыял-дэмакраты, сацыял-рэвалюцыянэры і нават заклятыя ворагі – бундаўцы і сацыялісты-сыяністы – аб'ядналіся перад агульнай бядой. Удзельнічалі ў самаабароне і працоўныя беларусы. Рознымі шляхамі прыйшлося даставаць зброю, былі наладжаныя сыстэматычныя трэніроўкі баевікоў самаабароны. Вайсковыя заняткі праходзілі ў гаях дубовага лесу на востраве ў раёне Валатавы. Туды баевікі дабіраліся на чаўнах. Потым, на судовым працэсе, фальшывыя сьведкі, выстаўленыя паліцыяй, сьцьвярджалі, што пры гэтым баевікі сьпявалі песьню на матыў «Дубінушкі» – «На христиан, на собак, на проклятых...» Усё гэта было, вядома, лухта. Ніякай «змовы сыёнскіх мудрацоў» не было, а было каля 500 дзяржаўных пастановаў, якія дыскрымінавалі яўрэяў і падштурхоўвалі іх на барацьбу з самадзяржаўем. Нават вядомы антысэміт фон Плеве, міністар унутраных справаў і натхняльнік кішынёўскага пагрому, прызнаваўся, што калі б ён быў яўрэям, ён бы кідаў бомбы. 23 жніўня 1903 году ў адным з гомельскіх гатэляў быў знойдзены яшчык з антысэміцкімі праклямацыямі. У гэты ж дзень на кірмашу ўспыхнула драка паміж сялянамі і яўрэйскімі гандлярамі. Наступныя два дні прайшлі ў трывожным чаканьні. І вось у панядзелак 1 верасьня натоўп грамілаў, узброеных сякерамі, віламі і палкамі, пачаў рухацца па Магілёўскай вуліцы (сёньня вул. Кірава) у напрамку яўрэйскага кварталу Амэрыка. Пагромшчыкі былі загадзя падрыхтаваныя і апранутыя ў аднолькавыя кашулі. Верхаводзілі імі купец Пятрэнка і начальнік мясцовага дэпо. Паліцыя і вайскоўцы неафіцыйна падтрымлівалі «чарнасоценцаў». Пачалася вакханалія гвалту. «Патрыёты» ўрываліся ў яўрэйскія хаты, рабавалі, забівалі.... І тады супраць пагромшчыкаў падняўся Роў. Гомельскі раён Роў на пачатку стагодзьдзя быў чымсьці падобным на адэскую Малдаванку або екацярынаслаўскі Амур. Іншымі словамі, гэта быў бандыцкі квартал, які, дзякуючы ляндшафту, быў недаступны для казакаў, а паліцыя туды хадзіць увогуле баялася. Калі гарадавыя ўсё ж адважваліся на такі подзьвіг, іх адразу закідвалі каменьнямі. Налётчыкі з Рову і сябры самаабароны з Каўказу і Забегу сустрэлі банду пагромшчыкаў на пустцы каля вул. Ветраная. З абодвух бакоў у справу пайшлі рэвальвэры, кінжалы і кастэты.

Арганізатары пагрому былі вымушаныя паслаць па дапамогу да вайскоўцаў. 2 роты салдатаў адкрылі вінтовачны агонь без папярэджаньня па ўдзельніках самаабароны. З чалавекі былі забітыя, аднак ніводны з пагромшчыкаў у Роў не прайшоў. Удалося абараніць і большую частку Магілёўскай. Зь іншага боку ў выніку пагрому была моцна разбураная Амэрыка, Каўказ... Акрамя таго, каб неяк рэабілітаваць сябе за правал пагрому, улады забаранілі дзейнасьць фонду ў падтрымку пацярпелым яўрэям, а прыехаўшы ў Гомель магілёўскі губэрнатар пераклаў адказнасьць за яўрэйскі пагром на саміх яўрэяў (!). Але, як ні стараліся царскія ўлады распаліць ксэнафобію, нічога не атрымалася. Падчас пагрому шмат гомельцаў хавалі яўрэяў. У дзень пагрому на дапамогу самаабароне прыехаў атрад бабруйскіх рабочых-беларусаў. Сам атрад самаабароны стаў ядром гомельскіх баявых эсэраўскіх арганізацыяў, што ў часы рэвалюцыі 1905-1907 гг. зарэкамэндаваў сябе як авангард барацьбы з самадзяржаўем. Прыклад гомельскай самаабароны падштурхнуў сацыялістаў і яўрэяў Каўказу і Украіны ствараць падобныя вайсковыя адзінкі для радыкальнага супраціўленьня «чарнасоценцам». Між тым напрыканцы 1905 у Гомелі пачаўся судовы працэс над удзельнікамі пагрому. На самой справе на лаве падсудных аказаліся не ягоныя арганізатары, а ўдзельнікі самаабароны. Усяго да адказнасьці было прыцягнута каля ста чалавек.



Ахвяры чарнасоценнага тэрору ў Рэчыцы

21 сьнежня 1905 каля сотні рабочых сабраліся каля будынку суду, каб выразіць пратэст супраць сваавольства ўладаў. На іх кінуліся казакі, але затрымаць нікога не ўдалося. Справа ў тым, што адзін з удзельнікаў самаабароны адкрыў агонь з рэвальвэру і прыкрыў адыход таварышаў. А што улады? Улады працягвалі рабіць стаўку ў барацьбе з дэмакратычным рухам на вялікарускі шавінізм. Незадаволеная вынікамі эпізадычных пагромаў, царская ахранка пачала ствараць масавыя чарнасоценныя групоўкі кшталту «Союз Михаила Архангела», «Общество активной борьбы с революцией и анархией», «Союз русского народа». Фактычна гэта былі першыя фашыстоўскія арганізацыі ў гісторыі. Шэраговыя сябры зацягваліся ў гэтыя арганізацыі прымітыўнай прапагандай і, як правіла, вэрбаваліся за чаркай гарэлкі. Гэтак, у Ветцы і іншых месцах Беларусі лідэры «Чорнай сотні» фінансавалі з мэтай рэклямы сваёй арганізацыі бясплатныя папойкі. Рабочыя Пуцілаўскага заводу выраблялі сабе значкі «Сябра Саюзу Рускага Народу» (г.зв. канькі-гарбункі), каб адмазацца ад непрыемнасьцяў з паліцыяй. У хуткім часе, пасьля Маніфэсту 17

кастрычніка, узьнялася новая хваля пагромаў. У Рэчыцы мясцовы вайсковы начальнік прапанаваў пагромшчыкам казённыя вінтоўкі. Атрымаўшы інфармацыю пра заплянаваны пагром, атрад гомельскай самаабароны, які складаўся з 28 сябраў «Бунду», эсэраў і сацыялістаў-сыяністаў, выехаў у горад над Прыпяцьцю. Камандаваў баевікамі вядомы бундавец Лейба Страдалец (Л.Рожэнд). Пра яго ў рабочых кварталах Гомеля складаліся легенды. Яму даручаліся самыя небясьпечныя апэрацыі. Гэта ён кінуў бомбу ў вядомага сваёй жорсткасьцю паліцмэйстэра, кіраваў атакай на групу казакаў у кастрычніку 1905-га... Але ў гэты дзень шчасьце адвярнулася ад рэвалюцыянэраў. Папярэджаныя гомельскай паліцыяй, «чарнасоцэнцы» зрабілі засаду каля чыгуначнай станцыі. З дыстанцыі 100 мэтраў яны расстралялі атрад гомельцаў. Сябры самаабароны былі ўзброеныя толькі рэвальвэрамі і не маглі весьці прыцэльны агонь. Было забіта 8 чалавек і ранена дзесяць. Сярод забітых быў і Л.Страдалец.

У самім Гомелі ўлады, памятуючы пра 1903г., арганізаваць пагром не адважыліся. Згодна інфармацыі паліцыі ў горадзе налічвалася каля 800 сябраў самаабароны, што мела раённую структуру і санітарную дружыну і нават вэласыпэдыстаў для сувязі. Але галоўная сіла самаабароны была ня ў колькасьці штыкоў. Галоўная перамога самаабароны была дасягнутая на ўзроўні сьвядомасьці. На гэты час арганізацыям сацыялістычнага накірунку ўдалося наладзіць кантакты з працоўнымі, якія раней падтрымлівалі пагромшчыкаў. Пад час кастрычніцкай стачкі 1905-га рабочыя Лібава-Роменскай і Палескай чыгунак прынялі пастанову супраць пагромаў і арганізавалі дзьве баявыя дружыны, што дзяжурылі ў яўрэйскіх кватэрах. Пагром у Гомелі ўдалося арганізаваць толькі пасьля правалу сьнежаньскага палітычнага страйку 1905-га году, і тое, толькі за кошт прыбыўшых з Прыбалцікі карнікаў генэрала Арлова. Увесь цэнтар гораду быў спалены. Самаабарона ня здолела адкрыта змагацца з вайскамі, якія былі ўзброеныя гарматамі, але ж ёй удалося не дапусьціць у горад чарнасоцэнцаў зь мясцовых вёсак.

Такім чынам, у далёкім 1903-ім годзе ў гомельскіх кварталах Амэрыка і Каўказ быў заснаваны адзін зь першых у сьвеце атрадаў антыфашыстоўскага супраціву. Мы, беларусы, маем усе падставы ганарыцца гэтым фактам і павінны працягваць слаўныя традыцыі папярэднікаў і надалей.

# Контаркультура і антыфашызм на Захадзе

*Праблема барацьбы супраць праварадыкальных тэндэнцыяў у контаркультуры актуальная ня толькі ў Беларусі. Прапануем рэліз канадзкай арганізацыі «Антырасісцкая Асацыяцыя» (ARA), што правяла ў сьнежні сэмінар на тэму «Нацысцкі музычны андэграўнд».*

Апошнім часам у авангардзе новай хвалі нэанацысцкага руху ў Эўропе і ЗША знаходзяцца пара-тройка жаўтаротых прыдуркаў. Вялікую ролю ў фармаваньні гэтай новай маладзёвай нацысцкай фармацыі адыгрывае расісцкая нацыяналістычная музыка. Ужо здаўна прысутнасьць нацыскіноў, або нацыпанкаў, не было чымсьці незвычайным для шматлікіх рэгіёнаў Паўночнай Амэрыкі. Гэта перш за ўсё гэтак званыя «Hammer»-скінхэды, якія апошнім часам спрабуюць стварыць сыстэму свайго андэграўнду, сетку кавярняў і рок-клюбаў. Будаўніцтва новых структураў вядзецца на двух узроўнях: праз супрацоўніцтва зь сябрамі Ку-Клукс-Клану і за кошт агалцелай прапаганды ў маладзёвым рок-асяродзьдзі. Дзейнасьць скінхэдаў накіраваная на стварэньне сваіх камп'ютарных рэсурсаў, вайсковых складаў, структураў фінансавай падтрымкі... Музыцы адводзіцца галоўная месца ў гэтай прапагандзе нацы-скінхэдаў. Зараз у ЗША існуюць два агульнафэдэральных часопіса прысьвечаных расісцкаму музычнаму андэграўнду – «Blood & Honour» (Лонг-Біч) і «Resistance» (Дэйтрот). Калі «Blood & Honour» працуе з скінхэдамі, то «Resistance» спрабуе выйсьці на мэталічную сцэну. Гэты часопіс выдаецца агульна канадзкімі і амэрыканскімі нацы на базе выдаўніцтва Resistance Record. Нацысцкая прапаганда на старонках «Resistance» падаецца вельмі хітра. На першы погляд, тут дамінуюць чыста музычныя матэрыялы кшталту інтэрвію з рок-групамі, агляд навінак, хіт-парад... Адначасова даюцца дэтальныя інструкцыі, як стварыць гурткі падтрымкі нацысцкіх арганізацыяў. Сетка рассылкі, што існуе пры Resistance Record, дазваляе ўкладаць грошы ў своеасаблівы фонд «Aryan Action Line», празь які фінансуецца большасьць нацысцкіх музычных праектаў у Паўночнай Амэрыцы.




«Фашысты! Мы вас пераможам, а потым зьямо!..»
Ґрафіці чырвоных скінхэдаў у Бэрліне

Найбольш раскручваюцца ў Resistance Record наступныя групы: Rahowa (Таронта), Max Resist і Hooligans (Рочэстэр), Bound for glory (Санкт-Пол), Aryan (Лёндан), Aggravates Assault (Плайнсбора), The Voice (Філадэльфія), Nordic Thunder (Дэлавэр), Centurion (Віскантын)... Лідэрам Resistance Record зьяўляецца Джордж Бурдзі (вакаліст Rahowa). Да апошняга часу Бурдзі і ягоныя сябры былі членамі нэафашыстоўскай групоўкі Church of Creator (COC). Гэтая група вядома сваімі экстрэмісцкімі пазыцыямі і поўнай шызафрэніяй. Маладыя сябры ўцягваюцца ў забойствы, налёты і тэрарыстычныя акцыі. Акрамя таго, нацы ўвесь час спрачаюцца наконт таго, хто зь іх лідэр Нацыі. Вялікі рэзананс набылі падзеі 31 верасьня 1998 г. Тады Resistance Record намеціў правесьці ў Расіна канцэрт памяці Яна Сьцюарта (заснавальніка руху нацыскіноў Blood & Honour), які загінуў у пачатку 90-ых у аўтакатастрофе. Чакалася, што на сэйшн прыедуць каля 400 чалавек з ЗША і Канады. Усе антыфашыстоўскія арганізацыі абвесьцілі мабілізацыю і адправілі сваіх баевікоў у Расіна. Сутычкі з антыфашыстамі не прымусілі сябе доўга чакаць. Спачатку банда чарнаскурай моладзі дала п...ды паўсотні скінхэдам на мясцовым рынку. У выніку сутычкі Джо Равон, саліст фашыстоўскай групы Nordic Thunder, быў сьмяротна паранены. Гэта быў другі падобны выпадак за апошні год.

Некалькі месяцаў таму чырвоны скінхэд забіў у Арэгоне Эрыка Бланка, лідэра групы Bound For Glory. Акрамя непасрэдных атак на фашыстоўскія канцэрты канадзкія антыфашысты практыкуюць падпалы магазінаў, што займаюцца продажам расісцкіх зінаў і запісаў. Гэтак, у Таронта былі спаленыя дзьве кніжныя крамы. Мінэапаліская філія ARA таксама атакавала рэдакцыю аднаго скінхэдаўскага часопісу. Ну што ж... Прыйшоў час не дыскутаваць з фашыкамі, а біць іх у рыла. А што яшчэ рабіць?




Плякат гішпанскіх антыфашыстаў

# ВЕДАЙ СВАІХ ВОРАГАЎ У ТВАР